*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 52 (788)** **27 СНЕЖНЯ 2006 г.**


# *З Новым 2007 годам!*

## У беларускіх навучальных установах мала беларускай мовы і літаратуры

19 снежня **Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка** правёў нараду з членамі Рэспубліканскага савета рэктараў вышэйшых навучальных устаноў.

Пад час нарады ён назваў ненармальнай сітуацыю, калі ў школах адзін урок беларускай мовы на тыдзень і шэсць урокаў ангельскай. **"Трэба ведаць перадусім сваю родную мову**, -- рэзюмаваў Прэзідэнт і дадаў: **— Дзеці ў Беларусі ўжо ўвогуле не разумеюць на тэлебачанні перадачаў на беларускай мове, не чытаюць газет па-беларуску".**

**Паступленне ў бібліятэкі новых кніг на беларускай мове скарачаецца — як і колькасць твораў беларускай літаратуры, што вывучаюцца ў школах.** Пра гэта 22 снежня, выступаючы на з'ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі (СПБ) у Менску, паведаміў **міністр культуры Беларусі Уладзімір Мацвяйчук.**

Мацвяйчук таксама паведаміў, што ў рамках мерапрыемстваў на 2007 год, які аб'яўлены Годам народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа, плануецца правесці маштабныя імпрэзы, у тым ліку святы паэзіі, сходы, чытанні, канферэнцыі і сустрэчы.

**Заўвага адносна абмежаванай колькасці гадзін, якія адводзяцца на вывучэнне літаратуры ў школе** прагучала і ў дакладзе **Мікалая Чаргінца** на тым жа з'ездзе, на што міністр адукацыі Беларусі **Аляксандр Радзькоў** паабяцаў паспрыяць вырашэнню гэтай праблемы.

Па пытанні выкладання беларускай мовы ў навучальных установах краіны да міністра адукацыі звярнулася і **Камісія па адукацыі, культуры, навуцы і навукова тэхнічнаму прагрэсу** Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.



НАЦЫЯНАЛЬНЫ СХОД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ПАЛАТА ПРАДСТАЎНІКОЎ
Камісія па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу
220010 г. Мінск, Дом Урада
тэл./факс (017) 222-65-45, факс (017) 227-37-84
E-mail: aduk@house.gov.by

НАЦИОНАЛЬНОЕ СОБРАНИЕ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ПАЛАТА ПРЕДСТАВИТЕЛЕЙ
Комиссия по образованию, культуре, науке и научно-техническому прогрессу
220010, г. Минск, Дом Правительства
тел./факс (017) 222-65-45, факс (017) 22[illegible]
E-mail: aduk@house.gov.by

15.12.2006 № 21-05/414

на № ______

**Старшыні грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы**
**імя Францішка Скарыны"**
**Трусаву А.А.**

**Паважань Алег Анатольевіч!**

Па даручэнні Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь У.М.Канаплёва Ваш ліст разгледжаны ў Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу.

Паведамляем Вам, што ў рэспубліцы створаны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы да святкавання 125-годдзя з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Старшыня Пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу таксама знаходзіцца у склад згаданага аргкамітэта. Палата прадстаўнікоў будзе ўшаноўваць памяць Я.Купалы і Я.Коласа ў рамках мерапрыемстваў, якія будуць запланаваны аргкамітэтам.

Мы лічым, што ўносіць дадатковыя запісы аб парадку выкарыстання беларускай мовы ў ВНУ краіны ў праект Закона Рэспублікі Беларусь "Аб вышэйшай адукацыі" немэтазгодна, паколькі гэта пытанне ўрэгулявана Законам Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" і артыкуламі 5 і 32 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб адукацыі".

Мы таксама разгледзелі заяву Рэспубліканскай рады ТБМ, якая датычыцца стану выкладання беларускай мовы ў ВНУ рэспублікі, і звярнуліся да міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь А.М. Радзькова з просьбай паведаміць, якім чынам у нашай краіне рэалізуецца палажэнне часткі другой артыкула 24 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" аб абавязковасці вывучэння беларускай мовы ва ўсіх без выключэння навучальных установах Рэспублікі Беларусь у цяперашні час, і якія захады для належнага выканання згаданага патрабавання Закона плануюцца Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у далейшым. Аб выніках разгляду Вы будзеце праінфармаваны дадаткова.

**Старшыня камісіі** **У.М. Здановіч.**



## 115 гадоў з дня нараджэння Ўладзіславы Луцэвіч

ЛУЦЭВІЧ Уладзіслава **Францаўна** (25.12.1891, в. Вішнева Валожынскага р-на — 25.2.1960), культурны дзеяч і педагог. Жонка Я.Купалы, заснавальнік і першы дырэктар музея паэта (1944-60). Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1959). Скончыла Віленскую гімназію (1906), педагагічныя курсы ў Варшаве (1908). У 1908—15 выхавацельніца дзіцячых устаноў Вільні, у 1919-41 інспектар, выхавацельніца і педагог-метадыст дзіцячых і дашкольных устаноў Менска. Як педагог стварыла і сістэматызавала досвед навучання дзяцей роднай бел. мове праз фальклор. Збірала, запісвала і апрацоўвала для малых дзяцей і вучняў малодшых класаў творы бел. нар. творчасці: казкі, загадкі, байкі, пацешкі, прыгаворкі, гульні. Найбольш увагі ў выхаванні дзяцей аддавала бел. нар. казцы і песні. У яе апрацоўцы выйшлі казкі "Як жабы абараняліся ад буслоў" (1928), "Пых", "Як пеўнік казу прагнаў" (абедзве 1938), зборнікі «Народныя дзіцячыя песенькі» (1939), «Зборнік вершаў для дашкольных устаноў» і «Для маленькіх» (абодва 1940), «Дашкольны спеўнік» (1928, з А.Савёнак). Адметнасць і сакавітасць бел. мовы,



багацце вобразаў і эмацыянальнасць казак і вершаў «Каточак», «Бусел», «Кую, кую ножку», «Ой, бяда», «Пятушок», «Сарока», «Ягорачка», «Жабка» і інш. працы валі лепшыя традыцыі вуснай нар. творчасці.

24 снежня – дзень памяці ксендза Вінцэнта Гадлеўскага

## Рыцар Волі і Незалежнасці



Ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі (1888-1942) быў сябрам Рады БНР, а з 1918-га года займаўся душпастырскай дзейнасцю ў Менску, дамогся вядзення набажэнстваў па-беларуску. У 1920—30-я гады быў адным з лідараў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, арыштаваны і знаходзіўся ў турме за беларускую справу. Гадлеўскі пераклаў і выдаў лацінкаю па-беларуску "Czatyry Ewanelii i Apostalskija Dziei" — пераклад Святога Пісання, а таксама шэраг рэлігійных кніг, шмат друкаваўся ў віленскіх беларускіх газетах і часопісах. У 30-я гады ён выдаваў газету "Беларускі фронт" і стварыў аднайменнае незалежніцкае аб'яднанне.

3 верасня 1941 г. Вінцэнт Гадлеўскі працуючы галоўным школьным інспектарам у генеральным камісарыяце "Беларусь", вядзе нястомную падпольную працу, мэтай якой было стварэнне незалежнай Беларускай дзяржавы без нацыстаў і бальшавікоў. Немцы праз спецслужбы ўважліва сачылі за беларускім рухам. Напрыканцы лета і ўвосень 1942 г. нямецкія спецслужбы, убачыўшы небяспеку для свайго рэжыму, пачалі вынішчаць найбольш паслядоўных і прыкметных прыхільнікаў беларускай нацыянальнай ідэі. Сярод арыштаваных быў і Вінцэнт Гадлеўскі, які фашысцкімі карнікамі быў расстраляны 24 снежня 1942 года.

"Рыцар Свабоды" — назваў сваю кнігу пра айца Вінцэнта Гадлеўскага (2004) даследнік гісторыі беларускага нацыянальнага Рэзістансу ХХ стагоддзя Сяргей Ёрш. У ёй сабраны факты з жыцця і змагання за Веру Хрыстову і беларускую справу ксяндза Гадлеўскага, раскрываецца яго роля ў нацыянальным Адраджэнні Беларусі ўсяго ХХ стагоддзя.

**24 снежня, у смутны дзень смерці ксяндза-змагара, высілкамі клуба "Спадчына" ў менскім касцёле св. Яна Хрысціцеля (р-н Серабранка, вул Пляханава) праведзена мемарыяльная вечарына, прысвечаная кс. Вінцэнту Гадлеўскаму.**

*Наш кар.*

# Новае выданне па гісторыі і археалогіі Старажытнай Беларусі

У гэтым годзе Інстытут археалогіі Расійскай Акадэміі Навук выдаў капітальную працу доктара гістарычных навук Леаніда Васільевіча Аляксеева пад назвай "Западные земли домонгольской Руси. Очерки истории, археологии, культуры". Выданне пабачыла свет ў дзвюх асобных кнігах вялікага фармату.



*Л. В. Аляксееў*







Першая кніга пачынаецца з апісання прыродных умоў старажытнай Беларусі ў эпоху жалезнага веку і ранняга феадалізму. Потым аўтар дае падрабязную гісторыяграфію, дзе гаворка ідзе пра даследчыкаў беларускай археалогіі з XIX па канец XX ст.

Першы нарыс прысвечаны мясцовым абарыгенам, тым плямёнам, што некалі жылі на Беларусі да прыходу сюды славянаў. Далей распавядаецца пра з'яўленне іх на Беларусі, іх рэлігіёна, дахрысціянскі свет з яго марфалогіяй і ўяўленнямі.

Другі нарыс мае назву "Гняздоўскі этап Заходняй Русі (IX - пачатак XI)". Тут ідзе гаворка пра шматлікія славяна-варажскія гандлёвыя, культурныя і вайсковыя кантакты, пра з'яўленне першых паселішч гарадскога тыпу, сярод якіх гаворка ідзе пра старажытныя гарадзішчы Полацка, Віцебска, Менска, Друцка, Браслава, Лукомля і іншых протагарадоў Беларусі. Таксама аўтар расказвае пра стварэнне першых княстваў і іх далейшы лёс.

Нарыс трэці апавядае пра дзве буйнейшыя кравіцкія дзяржавы: Полацкую і Смаленскую землі і іх дачыненні паміж сабою.

Самы вялікі – чацвёрты нарыс першай кнігі прысвечаны старажытным беларускім гарадам у XI - пачатку XIII ст.

Гэта гарады Полацкай, Турава - Пінскай, Смаленскай земляў, гарады Паўночна-Заходняй Чарнігаўшчыны (Гомель, Рэчыца) і гарады "Чорнай Русі" (Гарадзенскае княства і Навагародская зямля разам з Драгічынам Надбужскім).

Кнігу другую пачынае пяты нарыс, які мае назву "Узнікненне княстваў, іх палітычны лёс. Спрэчкі паміж князямі". Гэта, у першую чаргу, Полацкае дзяржава, потым Турава-Пінскае і Смаленскае княствы і Гарадзенскія зямля. Апошні, шосты нарыс складаецца з пяці асобных частак: хрысціянства архітэктура, жывапіс, дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва, асвета і пісьменства.

Абедзве кнігі маюць вялікія спісы выкарыстанай літаратуры, як беларускіх так і замежных аўтараў, а таксама паказчык імёнаў, якія згадваюцца ў тэксце працы. Таксама ёсць цікавыя каляровая і чорна-белыя фотаздымкі, розныя схемы, табліцы і карты.

Такім чынам беларускія і еўрапейскія даследчыкі атрымалі грунтоўнае выданне, правечанае розным бакам матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі ў ранні сярэднявеччы у яе этнаграфічных межах, што вельмі істотна.

*Алег Трусаў, кандыдат гістарычных навук.*

# Ваенная гісторыя беларускіх земляў да канца XII стагоддзя

У чацвер, 21 снежня, а 5-й гадзіне ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры па вул. Багдановіча адбылася прэзентацыя кнігі Я.У. Новікава "Ваенная гісторыя беларускіх земляў да канца XII стагоддзя".




Асноўным прадметам працы з'яўляецца вайна, як важнейшы фактар палітычнай гісторыі, вывучэнне і аналіз якога дае ключ да разумення многіх падзей беларускай мінуўшчыны. Даследванне не засяроджваецца выключна на вузкаспецыяльных тэмах і мае сваёй мэтай шырокі аналіз розных бакоў вайны, які можа быць карысным і цікавым як прафесійным гісторыкам і аматарам гісторыі, так і ўсім занятым палітыкай і ваеннай справай.

Па сваім навуковым падыходзе і эмацыйнай афарбоўцы даследванне моцна адрозніваецца ад пануючага ў беларускай гістарыяграфіі этнаграфічна-культурнага ўхілу. Аўтар разглядае імкненне людзей да палітычнай магутнасці ў якасці аднаго з асноўных рухавікоў гісторыі і прасочвае эвалюцыю вайны ад інструмента ў барацьбе за магутнасць да самадастатковага фактару гісторыі.

Храналагічна даследванне абдымае так званы "даліт'оўскі" перыяд беларускай гісторыі, які цягнецца ад мяжы V - VI стст. да канца XII стст. Першы том даследвання вабіць чытача ў малавядомыя "цёмныя" стагоддзі беларускай ваеннай гісторыі. Нашаму воку адкрываецца плынь славян на беларускія землі, якая была водбліскам падзення Рымскай імперыі і Вялікага перасялення народаў. На думку аўтара, менавіта мірнае і ваеннае ўзаемадзеянне прышлых славян з мясцовымі балцкімі грамадствамі заклала падставы ўзнікнення беларускага народу. Далей аўтар падрабязна разглядае час ваеннай дзейнасці нарманаў, за чыёй крывавай славай, апетай у сагах і летапісах, хаваецца іх неацэнны ўнёсак ва ўзнікненне і развіццё дзяржаўнасці на беларускіх землях.

*Наш кар.*

## *Шаноўная рэдакцыя "Наша слова"!*

У № 50 Вашай газеты змешчан зварот Сакратарыяту ТБМ "Віншуем са святам па-беларуску". На вялікі жаль у нашым райцэнтры - слаўным г. Слоніме - я не змог знайсці ў кнігарнях, крамах і ў шапіках "Белсаюздруку" аніводнай віншавальнай паштоўкі з тэксам на беларускай мове. І гэта зразумела. Зразумела па тых адказах высокіх дзяржаўных чаноўнікаў на звароты рады ТБМ, якія часта публікуюцца на старонках "НС" - у Беларусі замацавалася адна дзяржаўная мова – руская. Пазіцыя чынавенства вядомая, і аб гэтым гаварыць не будзем.

Не знаходзіцца годнага месца роднаму слову ў навучальных установах, клубах, на тэлебачанні і ва ўсіх без выключэння дзяржаўных установах.

Хачу асабліва спыніцца на нашай эстрадзе, якая фармуе музычныя, культурныя густы нашай моладзі.

Багатую, незабыўную спадчыну пакінулі нам дзеячы беларускай музычнай культуры савецкіх часоў. Пакуль жывём, не забудзем цудоўных песень савецкіх кампазітараў пасляваенных часоў, напоўненых гуманізмам, шчырасцю пачуццяў, дабрынёй, любоўю да Радзімы і людзей.

З вялікай павагай я заўсёды аносіўся да нашых сучасных таленавітых кампазітараў і выканаўцаў – народных і заслужаных, зорак і зорачак эстрады.

На вялікі жаль абсалютная большасць маладых артыстаў эстрады не паказваюць сябе дзядомымі патрыётамі сваёй Радзімы. У пасьлядоўным творчым жыцці ім не хапае мужнасці вымавіць беларускае слова перад мікрафонам ці камерай тэлебачання і гэтым падтрымаць родную мову і культуру ад заняпаду сваім талентам і аўтарытэтам.

Беларускамоўны рэпертуар падмяняецца не заўсёды **якасным** расейскім (рускамоўным) і тым, што называем таннай расейскай папсой. Быццам бы ў нас няма сваіх кампазітараў, паэтаў-песняроў, няма талентаў і ўвогуле няма сваёй беларускай нацыянальнай музычнай творчасці.

Усё гэта адабраецца высокімі чыноўнікамі Міністэрства культуры. Цікава, як само Міністэрства культуры ацэньвае мастацкую і выхаваўчую ролю такіх тэлеперадач, як, напрыклад, "Серебряный грамафон" і ім падобныя.

Прычынаў ігнаравання роднай мовы на карысць чужой не многа. Адной з іх можа быць слабое валоданне беларускай мовай некаторымі маладымі выканаўцамі. Гэта наша бяда, якой можна і трэба пазбавіцца. Маладым, таленавітым людзям удасканаліць валоданне роднай мовай не цяжка. Вядома пры жаданні.

Можа тут замешана вялікая палітыка? Не зразумела, каму патрэбна палітыка ўдушэння, ігнаравання роднай мовы, а разам з тым і нацыянальнай свядомасці.

Калі ўлічыць, што наш беларускі дзяржаўны гімн пачынаецца словамі: "Мы, беларусы, вольныя людзі", а яшчэ ўспомніць нядаўнія выказванні нашага Прэзідэнта на сустрэчы з украінскімі журналістамі, што ён з павагай адносіцца да беларускай мовы і культуры, то карыстанне роднай мовай і яе абарону ніхто не можа лічыць нейкай "крамолай".

Пачаў гэтую нататкту з навагодніх віншаванняў, гэтым хачу і закончыць. Было б добра пачуць з Менска навагоднія віншаванні ў навагоднюю ноч ад вядомых дзеячоў культуры на беларускай мове.

*Эдуард Арочка, сталы чытач "Нашага слова", в. Міжэвічы, Слонімскі раён.*

# Чалавек, які стварае сусвет

***50 гадоў Уладзіміру Кісламу, вядомаму беларускаму мастаку, рэстаўратару і адраджэнцу***



Куды б лёс ні закінуў гэтага чалавека, ён нідзе не прападзе. Не толькі таму, што Валодзя Кіслы майстра, пра якіх людзі кажуць – “залатыя рукі”. Найважнейшае – ён мае ўнікальную здольнасць гарманічна ўваходзіць у навакольнае асяроддзе і змяняць яго пад сябе, рабіць часткай уласнага сусвету. Вось Валодзя атрымлівае новую майстэрню (ужо пятую на маёй памяці) у старой камяніцы, мо сто гадоў не рамантаванай, і імгненна стварае ў ёй сваю непаўторную атмасферу. Над уваходам з’яўляецца адмысловы казырок, з якога звісае на ланцужку сялянскі гліняны збан з сушанымі кветкамі – нібы фірмовы знак мастацкага густу на фоне глянцавых рэкламаў эпохі глабалізацыі. Некалькі прыступак угару, адчыняеш дзверы і занурваешся ў воблака зёлкавых пахаў... Над дзвярмі, па сценах развешаны высушаныя, звязаныя ў пучкі лекавыя і араматныя травы, з якіх робіцца сапраўдная беларуская гарбата (менавіта так, ад лацінскага слова *herba – трава*, а не нейкі кітайска-расейскі “*чай*”). А яшчэ пах фарбаў, воску, мёду на аснове якога Валодзя прафесійна варыць сапраўдны рэстаўрацыйны асятровы клей. Бо Валодзева прафесія – мастак-рэстаўратар і ў гэтай іпастасі ён выступае ўжо амаль трыццаць гадоў. Майстэрня застаўленая абразамі, царкоўнай скульптурай ды разьбой і проста старымі рэчамі, якія Валодзя недзе набыў, а часцей падабраў знявечанымі і кінутымі людзьмі, а потым ажывіў, прыклаўшы свае залатыя рукі. Абавязковая старая канапа, засцеленая тканай вясковай радзюшкай, на якой так файна пасядзець у размове, папіваючы сабе каву або гарбату.

Валодзева майстэрня як кожны цэнтар любога сусвету мае магутную сілу гравітацыі, якая прыцягвае шмат чаго, часамі нават тое, што гаспадару і не хацелася б мець. Валодзя вечна наракае на выпадковых людзей, якім нешта ад яго патрэбна, найчасцей энергетычнага падсілкавання і душэўнага адпачынку ў цэнтры ягонага чароўнага і заваражальнага сусвету. Гэтыя людзі ўломваюцца ў любы час, нібыта па пільнай справе, без папярэджання, бывае, у самы творчы момант, які больш ніколі не паўторыцца, і гадзінамі пампуюцца энергіяй з гаспадара, бо той нікому не можа адмовіць па прычыне праклятай генетычнай беларускай гасціннасці. А потым безнадзейна шкадуе забраны ад працы час і скардзіцца сябрам, якія якраз стараюцца заранёў дамовіцца пра сустрэчу і лішні раз без дай прычыны не заходзяць.

Творчыя моманты бываюць не толькі ў Кіслага-рэстаўратара, але і ў адметнага і непаўторнага мастака. Праз сваю незвычайную псіхічную і душэўную арганізацыю Валодзя дакладна патрапіў у вельмі рэдкі ў нашыя часы жывапісны жанр, які б я акрэсліў як беларускі гістарычны рамантызм. Гісторыя ў ягоных карцінах паўсюдна, пачынаючы ад нацюрмортаў з лугавымі кветкамі, дзе абавязкова прысутнічае якая-небудзь старадаўняя рэч, да фантастычных краявідаў з гатычнымі або рэнесансовымі замкамі. Нярэдка яна ўвасобленая ў археалагічным артэфакце (фрагменту металёвай рэчы ці ўзорнай кафліны з археалагічнага раскопу), інкруставаным ці то ў раму, ці ў саму кампазіцыю карціны. Беларускасць праяўляецца не толькі ў дакладна схопленых стылёвых асаблівасцях мясцовай готыкі ды рэнесансу, але і ў тэхніцы малявання, якая нібы перанятая з твораў мясцовай жывапіснай школы 16 – 17 ст. Некаторая няправільнасць перспектывы, выяваў чалавечых постацяў толькі падкрэслівае адметнасць і эмацыйную напругу, выдатна перададзеную самабытнымі тутэйшымі мастакамі. Ад карцінаў Кіслага вее рамантычнай тугой мінулых эпохаў, якая перадаецца праз агульную каляровую танальнасць, то незямную светла-празрыстую і адначасна замглёную нібыта пакрытую вэлюмам, то кантрастную гульню ценю і святла – цёмных мінулых стагоддзяў са светлымі плямамі нашай пра іх веды. У ягоных гістарычна-рамантычных творах няма кантрасту паміж элітарнай шляхецкай і традыцыйнай сялянскай культурай – усё гарманічна сінтэзуецца – магнацкі замак з сялянскай хатай, гарадская кафля з вясковым збанком. Мастак не толькі ведае, але і адчувае сваім унікальным артыстычным чуццём, як у нас усё было чатырыста гадоў таму – усе, ад сялянаў да вялікіх князёў былі ліцьвінамі-беларусамі і ўсе гаварылі на адной – сваёй, мове.

Дар незвычайна абвостранага пачуццёвага ўспрыймання прыносіць не толькі адныя радасці, ды творчыя эмоцыі, ён можа абярнуцца і вялікім цяжарам пад ціскам смутных рэаліяў жыцця. Далікатна збудаваная нервовая сістэма не можа спачываць у стане раўнавагі. Тое, што нас мала кранае, або пакідае абыякавымі, у Кіслага выклікае буру эмоцыяў. Неяк у Гародні ўлады праводзілі вучэнні па грамадзянскай абароне – трэніравалі сігналы трывогі. Дык вось, калі адначасова ўключыліся і зараўлі ўсе завадскія гудкі, гарадзенцы не звярнулі на гэта асаблівай увагі ды працягвалі звыклыя справы, і толькі адзін Кіслы выскачыў са сваёй майстэрні на вуліцу з крыкам: “Што? Дзе?”, напэўна адчуўшы канец свету.

***

Чырвоны яблык летняга сонца толькі-толькі паказаў свой акрайчык над “зубчатым краем бору”, а па светла-роснай траве нёманскага лугу ужо працягнулася цямнейшая зялёная паласа дакладна ў кірунку ад вёскі да ракі. Вёска называецца Дубна, а паласу пакідаюць, збіваючы з травы расу, босыя хлапечыя ногі. Вунь ужо пад самай стужкай вады, дакладна абазначанай клубамі цёплай пары, відны хлапчук з вудамі ў руках. Ногі яго заледзянелі ад халоднай расы, але спіну ўжо лашчаць першыя сонечныя праменьчыкі, і Валодзя спяшаецца – будзе добрая рыбалка...

***

Рыбацкія выправы – заўсёдная і неад’емная частка жыцця і творчасці Валодзі Кіслага. У любую хвіліну і ў любое надвор’е, калі Кіслы адчуе, што ягоныя эмацыйныя рэзервуары апусташаюцца, ён ускоквае ў самаход і едзе на падзарадку да вады і лесу, за горад, найчасцей, на радзіму пад Масты да свайго Дубна, там дзе ў Нёман уліваецца Рось. Мінае некалькі гадзін, або, калі дазваляе час, то і дзён, і вось ужо Кіслы кіруе назад у Гародню, матор нясе, вочы блішчаць, у багажніку злоўленая рыба і схопленыя жыўцом родныя краявіды на эцюдах. І зноў выпраменьвае энергію на любімую справу і на кожнага, хто апынецца ў зоне ягонага ўздзеяння. А зона гэтая пакрывае не адну Гародню, сягае нашмат далей. Траплялі ў яе Уладзімір Караткевіч, Ларыса Геніюш, Аляксей Карпюк, відныя замежныя госці і царкоўныя іерархі, і нават засталіся матэрыяльныя сляды апошняга вялікага князя літоўскага і караля польскага Станіслава Панятоўскага (што гэта за сляды – тайна да пары да часу, вядомая пакуль толькі найбольш давераным асобам). Звыклыя гарадзенцы рознага веку, патрапіўшыя пад гравітацыю Кіслага, не раз выходзілі з яе ўжо не звыклымі жыхарамі а беларускімі грамадзянамі. І так ужо некалькі дзесяткаў гадоў – рэдкая ў наш час стабільнасць. Сам Кіслы кажа: “Як рэстаўратар люблю ўсё старое – старыя рэчы, старую машыну, старую жонку...” Сяржук Сокалаў-Воюш, неяк падымаючы чарку у самым цэнтры кіслаўскага сусвету, сказаў нібы жартоўны тост: “Давайце вып’ем за тое, каб у Гародні вуліца Горкага называлася вуліцай Кіслага”. У кожным жарце ёсць доля жарту.

***Алесь Краўцэвіч.***

# *Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў студзені*

Аверына Іна Віктараўна
Акуліч Аляксандр
Алейнікаў Мікалай Сідар.
Алесіна Ганна Міхайлаўна
Аляхновіч Мікалай Мікал.
Антаноўскі Мікалай
Антанюк Ян
Анціпенка Лявон Міхайл.
Апейка Марыя Фёдараўна
Ашкінадзэ Аляксандра А.
Ашуева Вера Яўгенаўна
Багданкевіч Святлана Мік.
Багданчык Таццяна
Бакіноўскі Валянцін
Барткевіч Таццяна Фёдар.
Барысаў Лявон Аляксеевіч
Барысевіч Аляксандр Віт.
Барысюк Уладзімір Уладз.
Батуеў Павел
Батура Вольга Іванаўна
Бахір Алена
Белы Павел Аляксандравіч
Бечка Антон Вацлававіч
Благачынны Фларыян Мік.
Болбас Данута Вацлав.
Булыга Міхаіл
Бурбоўская Алена Уладз.
Бяліцкая Ганна Сцяпан.
Бяляева Кацярына Уладз.
Варатынская Галіна Алякс.
Варонька Ніна Адэльфон.
Васілевіч Алена Канстанц.
Віданава Ірына Аляксеўна
Водзіч Таццяна
Водчыц Таццяна Мікал.
Выбарнаў Аляксей Анат.
Вярбоўская Надзея
Гайдук Марыя
Галавач Яўген
Гапеева Вальжына Міхайл.
Гаравы Марат
Гарадко Галіна Станіслав.
Гарановіч Віталь Рыгорав.
Гарбачова Тамара Валер.
Гардзіенка Ала Андрэеўна
Гасціловіч Уладзімір Всіл.
Гедроіць Аляксандр Ген.
Герасёва Таццяна Андр.
Герасімцова Галіна
Гіль Юры
Гільвей Валянціна
Грузнова Тамара Іванаўна
Грышкевіч Лявон Іосіфавіч
Грэбень Раіса
Гурская Людміла
Дзям’янаў Аляксандр Ул.
Дзянісаў Гальляш
Домаш Сямён Мікалаевіч
Доўнар Павал Віктаравіч
Драздоў Уладзімір
Дранжкевіч Марыя
Дробаў Іван Міхайлавіч
Дубовік Ганна Уладзімір.
Дуброўская Наталля
Дуброўская Наталля Мік.
Дычок Рэгіна Янаўна
Езавіт Т. В.
Ефімовіч Аляксандр Вячас.
Жарнасек Ірэна Франц.
Жылінская Святлана
Жынь Канстанцін Уладзім.
Заіка Зоя Міхайлаўна
Закрэўская Ніна
Зарубава Ганна Уладзім.
Зімніцкая Ганна Ігараўна
Зубар Марына Уладзімір.
Івановіч Кацярына Анат.
Ігнатчык Алег Уладзімір.
Іпатава Вольга Міхайл.
Казак Валянціна
Казак Міхась Мікалаевіч
Казак Сяргей Іванавіч
Казлоўскі Алег Феліксавіч
Калінін Мікалай Вальдэм.
Калядка Іна
Канус Марыя Іванаўна
Капарыха Мікола
Капуста Алена Міхайл.
Каратчэня Іван Адамавіч
Карповіч Уладзімір Леанід.
Картузава Яўгенія Юр.
Карэнька Людміла Мікал.
Каспяровіч Ілля Алегавіч
Кашчэева Людміла
Каяла Уладзімір Іванавіч
Кізееў Ігар
Кісель Таццяна Аляксанд.
Клімашонак Віталь Алег.
Кліменценка Святлана Ул.
Клімуць Яраслаў Іванавіч
Кніга Галіна
Кожан Кліменці Арсенавіч
Козел Алена Аляксандр.
Коласава Алена Аляксан.
Корнеў Павел Іванавіч
Котаў Павел Аляксандр.
Красоўскі Лявон Мікалаев.
Красоцкі Ян
Краўчук Ала
Крол Вера Сяргееўна
Крывальцэвіч Мікола
Крыж Сяргей Аляксандр.
Кузьмянкоў Генадзь Адам.
Кулік Анатоль
Курчанава Ларыса Вітал.
Куцэпаленка Яўген
Кучынская Галіна Іван
Лабоха Канстанцін Валян.
Лазарэнкаў Валянцін Дзм.
Лазюк Аляксандр
Лакішык Аляксей Рыгорав.
Ларычаў Алег Васільевіч
Лашук Алег Пятровіч
Лісоўскі Дзмітры
Ліцкевіч Наталля
Ліцьвінчук Аляксей
Ліцьвінчук Анатоль
Лобан Павел Міхайлавіч
Лобец Алесь Паўлавіч
Лукашэнка Антон Уладзім.
Лысенак Р.В.
Лысы Аляксандр Уладзім.
Люліна Алена Канстанцін.
Магалінскі Ігар Уладзімір.
Магучава Таццяна Васіл.
Малаш Юрый Леанідавіч
Малышава Людміла Яўг.
Малышка Іпаліт Міхайлав.
Маляўка Марыя
Мароз Аксана Пятроўна
Мельнікаў Юры Леанід.
Мільнова Таццяна Мікал.
Мінько Мірына
Міхалева Варвара
Міхалькевіч Людміла Мік.
Мішкель Станіслаў
Мішкоў Яўген
Музычэнка Андрэй Мікал.
Мускі Барыс Георгіевіч
Муша Уладзімір Мікал.
Мялешка Віктар Алексан.
Навагродскі Мечыслаў А.
Навахрост Кацярына
Нагорны Юры Аляксандр.
Нікалаеў Аляксандр Яўг.
Нікіцін Аляксандр
Новік Міхась Фаміч
Норка Алеся
Падабед Аляксандр
Палубінская З. Г.
Панізовіч Марат Яфімавіч
Паплеўка Юлія Юр’еўна
Патаранскі Сяргей Сярг.
Пісарэнка Аляксандр Вас.
Пляхневіч Тамара
Пракурат Яўген Андрэевіч
Пратасеня Юрый Аляксан.
Прыхач Віталь Іванавіч
Прышчыц Валянціна Сц.
Пясецкі Генадзь Леанідавіч
Пячкоўскі Франц Уладзім.
Рабыкін Аляксандр
Рабянок Дзяніс
Раковіч Аксана Уладзімір.
Рамановіч Вераніка
Роўкач Андрэй
Рудак Таццяна
Рудзіч Алена
Руцкая А.В.
Рымша Сяргей
Савуліч Мікалай
Самуйлік Яўген Рыгравіч
Свістунова Алеся Алякс.
Семянчук Альбіна
Сівіцкі Уладзімір Уладзім.
Сімбіраў Ігар
Сірота Вінцэнт Уладзімір.
Скрыпко М.А.
Снітко Вера
Снітко Тамара
Судак Вікторыя
Сушчэня Анатоль
Сытая Таццяна
Сяргейчык Аляксей Мік.
Тычына Міхась Адамавіч
Украінка Сяргей Сяргеевіч
Фёдарава Вольга Дзмітр.
Фёдарава Лілея
Федаровіч Святлана Міх.
Федзюшка Надзея
Фядотаў Феакціст
Хадановіч Маргарыта М.
Хадоркін Мікола Фёдар.
Хамец Міхась Дзмітрыевіч
Хмараў Сяргей Рыгоравіч
Царкова Ніна Канстанц.
Цяцёркін Мікалай Яўген.
Чайка Сяргей
Чаркасава Любоў Восіп.
Чарных Наталля
Чарнякова Вольга
Чцепанчук Міхаіл Уладзім.
Чылек Міхаіл Паўлавіч
Чырэка Алесь
Шаклач Таццяна
Швец Алена
Шунько Наталля Фёдар.
Шыбека Аляксандр Сярг.
Шыман Дзмітры Валянц.
Шыманец Алена
Яначкін Ігар Іванавіч
Янушкевіч Леанід
Яўсеенка Жана
Яцкевіч Уладзімір Антон.

**Галіна Лаўрэш, Леанід Лаўрэш**

# Каталіцкае Свята Божага нараджэння ў Лідзе

***Як сустракалі свята Божага нараджэння ў Лідзе на пачатку XX стагоддзя, больш за 100 гадоў таму? У артыкуле будуць выкарыстаны ўспаміны былой жыхаркі нашага горада прафесара Варшаўскага універсітэта Ірэны Стасевіч-Ясюковай і сямейныя архівы Януша Сегеня, зараз жыхара Варшавы.***

**1905 год. Каляды ў доме Стасевічаў – на вуліцы Віленскай ( цяпер мы ведаем гэтую вуліцу пад назвай Савецкая), што паблізу яўрэйскага шпіталя і яўрэйскіх могілак, недалёка ад узгорка, за якім пачыналася поле, ніжэй – луг і рака Лідзейка.**

Каляды ў Лідзе заўсёды былі снежныя, 24-га снежня - у Дзень Вігіліі (на Куццю) круціліся за акном далікатныя пласцінкі белага снегу. Гэта стварала спецыфічны непаўторны настрой перад святочнай вячэрай. У цёплым, нагрэтым вялікай печчу, пакоі, стаяў вялікі авальны стол, за якім магло сесці дваццаць асоб. На гэтым стале раскладалася духмянае сена – яно павінна было напамінаць аб стайні ў мястэчку Бэтлеем, дзе нарадзіўся пан Эзус, і было ў мясцовай традыцыі такое ж важнае, як і аплатка. Забыцца пра сена было нельга. Пасля вігілійнай вячэры моладзь выкарыстоўвала гэтае сена для варажбы: даўжыня сцябла выцягнутага з-пад абруса, павінна была акрэсліць працягласць жыцця. Сена трэба было занесці да стайні ці аборы, каб жывёла, спажыўшы яго, прыдбала здароўя. Абрус на вігілійным стале павінен быў быць снежна-белы – найлепш ільняны, белы колер сімвалізаваў чысціню Дзевы Марыі. На галоўным месцы стаяў сподачак з аплаткам (калядой). Самым галоўным дзеяннем пры святочным стале было дзяленне аплаткам. Перажагнаўшыся, бабця , як старэйшая гаспадыня дому, выказвала ўсім прысутным пры стале віншаванні і падыходзіла з аплаткам да кожнага асабіста, каб падзяліцца з ім гэтым каталіцкім сімвалам сямяйнага звязу. Менавіта свята Божага нараджэння – гэта сямейнае свята, і абавязкова ў гэты дзень пры сямейным стале збіраліся ўсе родныя. Успаміналі тых, што былі далёка, і тых. што адышлі ад нас назаўсёды. Пры вігілійным стале павінна было быць вольным адно сэрвіраванае месца, якое прызначалася неспадзяванаму госцю. У гэты святы вігілійны вечар кожны, хто мог пастукаць у дзверы, прымаўся гаспадарамі з адкрытым сэрцам. На вігілійную вячэру запрашалі адзінокіх сваякоў, блізкіх знаёмых, каб разам падзяліцца аплаткам.

Вігілія складалася з 12-ці посных страў. Забаранялася піць алкагольныя напоі – напросту іх не ставілі на стол. Але затое заўсёды на стале знаходзіліся некалькі гатункаў селядцоў:

ральмопсы – селядцы, якія набіралі водару і смаку ад розных прыправаў праз некалькі дзён, вытрыманыя ў воцаце;

селядцы з цыбуляй і яблыкам;

селядцы па-каралеўску з вялікай колькасцю прыправ з каранёў - рабіліся таксама за некалькі дзён раней;

«посныя» селядцы – смажаныя ў цесце.

Сярод рыб абавязкова павінны былі быць:

карп у галярэце;

шчупак па-яурэйску – фаршыраваны шчупак;

карп смажаны – абавязкова ў алеі са сланечніку.

Смажаная рыба падавалася разам з хрэнам.

Затым прыносілі вігілійны боршч (буракі), таксама посны, празрысты і чырвоны, кіславата-салодкі, прыпраўлены воцатам, лімонам ці вішнёвым сокам. Да баршчу падаваліся вушкі з грыбамі і цыбулькай, смажаныя на алеі, хрусткія, яны былі асабліва выдатныя.

Галоўнай стравай вігілійнай вячэры была куцця, радавод якой вёўся з тых даўніх часоў, калі пшаніцу малолі ў жаронках. Уласна пшаніца – сімвал багацця, мак – сімвал спакойнага сну і мёд – асноўныя складальнікі куці. Але прыгатаваць куццю так, каб была смачная вельмі няпроста. Вось рэцэпт гатавання галоўнай стравы вігілійнага стала:

*Шклянку зерня пшаніцы вытрымаць у вадзе праз 2 дні, потым варыць да змягчэння, некалькі разоў змяняючы ваду. Абсушыць на сіце. Мак заліць кіпенем і варыць на малым агні. Тры разы прапусціць праз мясарубку (працерці ў лаханьцы, іначай, макатры). Дадаць да зваранай пшаніцы. Дабавіць ашпараныя кіпенем разынкі, пасечаныя міндальныя і лясныя арэхі. Паставіць на ноч у халоднае месца. Перад Вігіліяй размяшаць разам з мёдам, распушчаным у вадзе.*

У 20-х гадах XX стагоддзя на Лідскай зямлі назва гэтай стравы вігілійнай вячэры - куці - была перанесена на назву самой вячэры. Паводле народнага падання куццю ела Божая маці вечарам перад нараджэннем сына, і таму гэтая страва павінна быць на вігілійным стале.

Страва, якую любілі ўсе – гэта сліжыкі з макам або з салодкім макавым малачком. Сліжыкі – гэта невялікія кавалачкі, зляпленыя з поснага дражджавога цеста і запечаныя. Пазней іх высушвалі ў льняным мяшочку яшчэ месяц. Сліжыкі вымаюцца з мяшочка за 2 гадзіны да Вігіліі і дадаюцца да маку з мёдам і бакалеямі. Такая кампазіцыя мае цудоўны смак!

Гэтыя стравы: "сліжыкі з макам" і " вушкі з грыбамі" могуць лічыцца адмысловa лідскімі, бо як сцвярджаюць нашыя землякі, што пабывалі ў сталіцах розных краін: страў з такім дасканалым смакам там з'есці нельга, бо іх папросту няма.

Адзінаццатай стравай былі кісялі: журавінавы і аўсяны – вельмі працаёмкі, зробленыя з аўсяных платкаў, злучаных з бульбяным крахмалам. Пад час ві-гілійнай вячэры гэты кісель падаваўся з мака-вым малачком.

Дваннадцатай стравай быў кампот з сушаных сліў, яблыкаў, грушак або толькі са сліў.

Вігілійны стол – гэта свайго роду візітоўка гаспадыні дому. Так было сто гадоў таму, гэтак застаецца і цяпер. Праўда, працоўныя жанчыны маюць намнога меней часу, чым іх прабабці, і таму вельмі цяжка вытрымаць усе каноны. Аднак мы стараемся радаваць сваіх родных і трымаць традыцыі Лідчыны, якія прыйшлі да нас з даўніны.

Удзельнікі вігілійнай вячэры не абмяжоўваліся толькі ежай. Моладзь разнастаіла вечар калядкамі: "Бог нарадзіўся..." на мелодыю паланеза і словы тагачаснага паэта-лідчука Францішка Карпінскага.

На пачатку стагоддзя не было ні доўгагральных кружэлак, ні магнітафонных касетаў з музычнымі запісамі, ні CD дыскаў, таму па-просту спявалі: на некалькі галасоў або сольна пры акампанеменце мандаліны альбо фартапіяна, у залежнасці ад заможнасці гаспадароў.

Набліжалася пара выйсці на пастэрку да бліжэйшага кастёла Айцоў Піяраў, які знаходзіўся на вуліцы Віленскай (сёння гэта царква па вуліцы Савецкай). Асветлены піярскі касцёл, музыка аргана і прыгожыя калядныя песні... Блізіцца да канца Ноч Божага Нараджэння. "Ціхая ноч".

Пачынаючы ад першага дня Калядаў і да вячэры Трох Каралёў, моладзь ладзіла імпрэзы штодзённа. Дамы лідчукоў наведвалі калядоўшчыкі, што прыходзілі з Бэтлеемскай мігаючай зоркай і цэлым калядным рэпертуарам. Зычылі гаспадарам здароўя і розных даброт. Занатавана каля 600 розных калядных песень і пастаралек. Калі гаспадар дабра карміў-паіў калядоўшчыкаў, то яго хвалілі ў сваіх песнях і ладзілі цэлы канцэрт, калі ж, не дай бог, гаспадар не пускаў да дому, то маглі зняславіць злымі жартамі на ўсю ваколіцу.

Іншая моладзь амаль з акторскім талентам прадстаўляла групы "ірадаў". На чатырох слупках або жэрдках расцягваўся дыван і пад гэткім балдахінам выступалі адпаведна апранутыя Ірад, анёл, чорт, смерць з касой, а часта і слугі Ірада.

Святы Калядаў доўжацца да Трох Каралёў ( да 6-га студзеня). У лідскіх касцёлах спявалі песню, прыгожую мелодыю да якой напісаў ксёнз З. Адэльгевіч:

*"Мудрацы свету,*
*каралі, куды спяшаецеся?*
*Скажыце нам, Тры каралі,*
*ці хочаце ўбачыць дзіцятка?*
*Яно у ясельках ляжыць,*
*не мае ні трону, ні багацця,*
*А прароцтва аб ім*
*ужо разносіцца ў свеце..."*



*Вуліца Каменская ў Лідзе*

Мудрацы- каралі, аддаючы Езусу павагу, падносяць яму ў дар міру, кадзідла і золата. Дзеля ўвекавечання гэтай падзеі на дзвярах дамоў пісалі і пішуць да сённяшняга дня свянцонай крэйдай ініцыялы Трох каралёў +К+М+В падзеленыя крыжыкамі: Каспар, Мельхіёр, Бальтазар. Гэтыя знакі павінны ахоўваць дом і яго жыхароў цэлы год ад вялікага зла, як і высвянчэнне (абнясенне ўсіх памяшканняў моцна разагрэтай мешанкай з асвенчаных у гэты дзень у храме міры і кадзідла).

Прыгожа праходзіў на свята Трох Каралёў і дзіцячы баль у пачатковай школе. Дзеткі абавязкова былі ў казачных касцюмах. Гэта гномы і каралева Снежка, Ясь і Малгося, Хлопчык з пальчык (Кошалэкопалэк) і іншыя казачныя героі. Па заканчэнні балю ўсіх частавалі пончыкамі і какавай. У адным з гэтых пончыкаў быў запечаны міндальны арэшак. А той, да каго трапіў пончык з міндалём, выбіраўся Міндальным Каралём і кіраваў балем надалей, а потым атрымоўваў якую-небудзь узнагароду.

**У 1905 годзе ялінку не ўпрыгожвалі, Новы год не адзначалі, бо не ведалі такога свята. Затое ўрачыста адзначалася развітанне са старым годам у Сільвестравы вечар, які прыпадае якраз на 31-га снежня.**

Вось як гэта адбывалася ў адным з гасцінных лідскіх дамоў у 20-я гады. Вялікая група моладзі збіралася ў Сільвестравы вечар у палкоўніка Малеўскага па вуліцы Каменскай (цяпер гэта вуліца Леніна). Госці збіраліся перад поўначчу ў салоне. Пры дзвярах іх сустракалі адпаведна апранутыя Стары Год і Новы год. Абодва гаварылі прамовы: Адыходзячы Год пра тое, што добрага і пазітыўнага зрабіў падчас свайго кіравання, а Надыходзячы – якія мае планы і як будзе іх рэалізоўваць. Пазней у момант выбіцця 12-й гадзіны стралялі коркі ад шампанскага, узносіліся тосты і асабістыя віншаванні. Былі танцы, спевы і розныя прыемнасці да раніцы.

Звычай упрыгожваць яловыя дрэўцы на Каляды прыйшоў у Ліду, як і на ўсю Беларусь у 30-я гады XX стагоддзя з Нямеччыны. Традыцыйную ялінку ў дамах лідчукоў абавязкова набываў і ўпрыгожваў тата з дзецьмі. Дрэўца павінна было быць упрыгожана да з'яўлення на небе першай зоркі. А мама завіхалася ў гэты час каля стала. Цацкі з большага былі самаробныя: анёлы і птушкі, ланцужкі і паяцы рабіліся дзіцячымі рукамі з бліскучай паперы, якая набывалася ў краме Яўстаха Вярбіцкага, што знаходзілася вуліц Фалькоўскага (Перамогі) і Школьнай (Кірава) на гэтым месцы цяпер знаходзіцца ўпраўленне ЖКГ. Ялінку упрыгожвалі маленькімі чырвонымі яблыкамі (сорту папяроўка). доўгімі цукеркамі ў срэбных ці іншых бліскучых каляровых абгортках, лакіраванымі пернікамі ў форме сардэчак. Былі і шкляныя рознакаляровыя шарыкі і маленькія свечкі ў срэбных ліхтарыках. Ялінка заўжды была высокай аж да столі. У першы дзень Свят Божага нараджэння дзеці знаходзілі пад ялінкай падарункі. Іх прыносіў ноччу Святы Мікалай. Кажуць, што пад ялінкай непаслухмяныя дзеці маглі знайсці замест падарунка "ружачку" ці "казіную ножку" (бізун).

Што тычыцца Дзеда Мароза, то якраз Святы Мікалай і стаўся прататыпам сучаснага Дзеда Мароза і не ў часы сівой даўніны, а дзесьці ў першай палове XX стагоддзя. Ва ўсякім выпадку нашы землякі ў сваіх мемуарах раней гэтага часу яго не ўзгадваюць.


*Вуліца Сувальская ў Лідзе*



# ЛІТАРАТУРА
# ЯК НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

**Даклад старшыні ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Алеся Пашкевіча, прачытаны на чарговым XV справаздачна-выбарчым з'ездзе 22 кастрычніка 2006 г.**

*(Працяг. Пачатак на ст. 5.)*

Не была літасцівай да пісьменніцкай суполкі і дзяржава. Наогул, праблема ўлады і творцы – адна з найдаўніх. Была яна і ў старажытнасці, і ў новым часе. Праблемай застаецца і сёння. Здавалася б, гэта так проста: творца мусіць паважаць уладны Закон, а ўлада – Творцу. У рэальнасці ж кожны творца (прынамсі, кожны сапраўдны) найперш жыве яшчэ Купалам сцверджаным: *«Гуслям, княжа, не пішуць законаў»*. Зразумела ж, акрамя агульначалавечых, акрамя Боскіх... *«Пісьменнік – гэта ў першую чаргу чалавек, далёкі ад кан'юнктуры, гатовы ў імя гэтага пагрэбаваць нават міласцінай улады»*. Апошняя цытата належыць – заўважце – не літаратару, а... Прэзідэнту Рэспублікі Малдова Уладзіміру Вароніну.

*«Дзяржава не тое што не дапамагае – яна з разлікам, дакладна, жорстка дабівае нас. І наш дастойны юбілей мы сустракалі наўзбоччы ад гучных мерапрыемстваў. А наш Саюз пісьменнікаў выжывае ў найцяжэйшых умовах войнаў і палітычных катаклізмаў і да сёння працягвае існаваць»*. Апошнія тры сказы былі тры гады таму прамоўлены даўнім сябрам беларускіх літаратараў старшынём Саюза балгарскіх пісьменнікаў Ніколам Радзевым. Толькі ж кіраўніцтва Балгарыі не адабрала ў пісьменнікаў сафійскі Дом літаратара (як не зрабіла ў сваіх краінах і кіраўніцтва Расіі, Украіны, Літвы, Кіргізіі, Казахстана ды інш.), з арэнды якога балгарскі Саюз бедна-багата, ды функцыянуе.

А што казаць пра наш Саюз беларускіх пісьменнікаў, у якога не толькі Дом забралі, але й штодня адбіраюць роднамоўнага чытача? Што казаць пра Саюз, у якога адабралі штотыднёвую газету і літаратурныя часопісы, дзе не могуць (ды і годна не жадаюць) публікавацца большасць Народных паэтаў і празаікаў ды лаўрэатаў Дзяржаўных прэмій...

Што казаць, калі ў незалежным Мінску не хапіла месца на магілу жонкі вядомага Народнага пісьменніка? І сёння да Янкі Брыля даводзіцца ехаць у няблізкія Калядзічы. Што казаць, калі мінская цэнтральная кнігарня, папярэдне замовіўшы тысячу асобнікаў, адмовілася браць на рэалізацыю новую кнігу "Парадоксы жыцця" другога вядомага і Народнага – Васіля Быкава?

Урэшце, што казаць, калі на юбілей вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў тром дзесяткам сяброў Саюза пісьменнікаў – ветэранам, франтавікам і партызанам – мэрыя беларускай сталіцы ў дзень вызвалення Менска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў не дазволіла (!) ускласці кветкі да Вечнага агню на Плошчы Перамогі? Прычым не дазволіла і напярэдадні – 30 чэрвеня... Маўляў, шмат дэлегацый, няма магчымасці...

Парадоксы жыцця? На жаль, не толькі...

У гэтым звязку хачу агучыць наступную думку: сёння не Саюз беларускіх пісьменнікаў становіцца апазіцыйным сучаснай уладзе Беларусі. Сёння гэтая ўлада стала апазіцыянавацць нашай арганізацыі. Чаму? А таму, што незалежныя пісьменнікі ў нацыянальнай гісторыі былі і застаюцца дзяржаватворцамі. Яны – першыя заканадаўцы нацыі, хоць у розныя часы і непрызнаваныя. Гэта яны – Багушэвіч, Каганец, Цётка – тварылі свой народ, гэта яны – Купала, Колас, Багдановіч, Ластоўскі, Гарэцкі – тварылі сваю нацыю. І аспрэчыць гэтага не змаглі ні імперскія, ні камунататалітарныя часы! Не змогуць гэтага зрабіць і сённяшнія здэнацыяналізаванныя чыноўнікі! Больш за тое, у новым часе імёны нашых літаратурных прарокаў нанова запатрабаваныя, як запатрабаваныя ў сённяшнім пакручастым нацыянальным адраджэнні імёны кожнага з вас – прадстаўнікоў нацыянальнай духатворчасці!

Літаратура – дачка часу, час – яе бацька. Дочкі, як вядома, бываюць рахманымі, паслухмянымі, а бываюць і капрызлівымі, самастойнымі. Ды і характары бацькоў, не сакрэт, розныя. Аднак хацелі б ці не яны чагосьці іншага, літаратуры-дачцэ і часу-бацьку наканавана жыць разам, і вучыцца адно ў аднаго, і вучыць адно аднаго.

Практыка доўгіх дзесяцігоддзяў сацрэалізму засведчыла, што нават самы магутны ідэалагічны дыктат не можа перативарыць усіх пісьменнікаў у калектыў бяздумных выканаўцаў ды "алілуйшчыкаў". І калі ў сярэдзіне 1980-х гадоў захісталіся падмуркі савецкай імперыі, з улоння Саюза пісьменнікаў з'явілася Таварыства беларускай мовы, нацыянальныя грамадскія і палітычныя рухі, партыі. Гэта наш Саюз першы ўзняў сцягі новага нацыянальнага адраджэння, на якіх была сімволіка Грунвальда, Ластоўскага, Багдановіча...

А сталася так таму, што літаратура і час – дзве роднасныя катэгорыі, якія вымяраюць і цэлыя эпохі, і асобныя жыцці. Не па гадах ці месяцах вымяраюцца чалавечыя дзеі ў гісторыі і ў вечнасці, а па вартасці зробленага, створанага. Беларуская літаратура выконвала і будзе выконваць найперш функцыю ствральную. Невыпадкова беларуская мова ў адзіны шэраг сабрала гэтыя словы: стваральны, творчасць, твор... Літаратура, роднае мастацкае слова павінна і стварэць, і аб'ядноўваць нацыю. А нацыя – стварэць літаратуру. Бо, у рэшце рэшт, па вялікім рахунку, літаратура – гэта і нацыянальная слава, і нацыянальны клопат, і нацыянальная ідэя.

Кожная нацыянальная літаратура самадастатковая. Кожны народ мае такую літаратуру, якую заслужыў. І кожны народ мусіць мець літаратуру. Калі ён народ...

## Магістральныя кірункі сучаснай беларускай літаратуры

А цяпер дазвольце перайсці да разгляду сучаснай беларускай літаратуры, існаванне якой у высокіх кабінетах ставіцца пад сумніў. Дазвольце зрабіць гэта нетрадыцыйна, без звыклага пераліку імёнаў і твораў, а засяродзіцца на асноўных ідэйна-тэматычных магістралах у развіцці нацыянальнага мастацкага слова. Першым і асноўным у гэтым кантэксце хачу назваць кірунак дзяржаватворнай літаратуры. Гэта на новым мастацкім узроўні працяг традыцый нацыянальнай літаратуры, яе актыўнай спрычыненасці да пабудовы незалежнай і самастойнай Беларусі. Сучасная дзяржаватворная літаратура адметная выразным асветніцкім і грамадзянскім пафасам. Яе асноўнае ядро – нацыянальная ідэя. Нашую дзяржаватворную літаратуру складаюць гістарычная проза і драматургія, грамадзянская паэзія, мемуарная і дакументальная проза.

У апошнія гады на першы план актыўна выйшлі аўтары гістарычных раманаў і аповесцяў, такія, як В. Іпатава, Г. Далідовіч, У. Арлоў, Л. Рублеўская, В. Якавенка, А. Наварыч, К. Тарасаў, В. Хурсік, іншыя. Пасияхова адраджаецца жанр гістарычнага апавядання. У гістарычнай драматургіі шчыруюць сёння А. Петрашкевіч, А. Дудараў. На перадавой – як і раней – сёння сотні публікацый грамадзянскай паэзіі.

Літаральна ў кожнага паэта – ад Н. Гілевіча, Г. Бураўкіна, С. Законнікава, А. Каско да самых малады дзячат-пачаткоўцаў – можам знайсці бліскучыя і запамінальныя гімнаспевы, як у дэбютанткі "Дзеяслова" і лаўрэаткі прэміі "Залаты апостраф" студэнткі Ганны Аўчыннікавай.

Свайго росквіту дасягае і яшчэ адзін ідэйна-тэматычны магістрал сучаснай беларускай літаратуры – літаратура эстэтызму. Апяванню ідэалаў прыгожага, гарманічнага і ўзнёслага прысвячаюць свае творы Р. Барадулін, У. Някляеў, Л. Дранько-Майсюк, Н. Мацяш, М. Скобла, Э. Акулін, А. Камоцкі, А. Бадак, А. Данільчык і сотні іншых – у паэзіі, В. Карамазаў, А. Кудравец, А. Сямёнава, Ф. Сіўко, А. Федарэнка і многія іншыя – у прозе.

Асобным магістралам у сучасным прыгожым пісьменстве выступае і літаратура катастрафізму, якая акцэнтуе ўвагу на глыбінных прыродных катаклізмах, нацыянальных, псіхалагічных, маральных, светапоглядных, цывілізацыйных зрушэннях. Тут і незагойная чарнобыльская тэма, і прарочыя новыя аповесці і прыпавесці В. Быкава, і аголена-наболеная проза В. Казько, і проза неадпатаванага М. Купрэева, і разважліва-пранікнёная проза Б. Пятровіча, і апакаліпсічна-вычувальныя публікацыі У. Сціпана, Ю. Станкевіча, мудрага Мудрова, іншых. Прадчуваннем зямнога катастрафізму насычана і нашая паэзія – Л. Сом, В. Аксак, а таксама ледзь не ўсіх маладзейшых.

Сваю годную і запатрабаваную ў свеце нішу распрацоўвае ў сучаснасці і беларуская літаратура эксперыменталізму: творы А. Разанава, І. Сідарука, С. Кавалёва, І. Бабкова, дзесяткаў прынятых у наш СП "бумбамлітаўцаў", "шмэрцаўцаў" і "постмадэрнаўцаў": тэксты В. Бурлак, В. Жыбуля, З. Вішнёва, І. Сіна, іншых.

Няпросты перыяд у сваім развіцці перажывае сёння літаратура для дзяцей. Чаго не скажаш пра літаратурныя пераклады. Не зважаючы на складанасць апублікавання па-беларуску за апошнія гады перастворана сотні вялікіх і кароткіх тэкстаў, раманаў, апавяданняў, п'есаў, вершаў у выкананні Р. Барадуліна, А. Лойкі, В. Сёмухі, А. Хадановіча, іншых – развітых тэкстаў ад Папы Рымскага да Зелімхана Яндарбі, анталогій польскай, літоўскай, украінскай паэзій. Яны сталі і нашым духоўным набыткам...

## Асветніцкая і арганізацыйная дзейнасць Саюза беларускіх пісьменнікаў

За мінулыя чатыры гады ў няпростых фінансавых умовах кіраўніцтва СБП правяло больш 300 літаратурных сустрэчаў – у Менску і іншых гарадах краіны. Папулярызавалася беларускае мастацкае слова, літаратурныя выданні (у першую чаргу – незалежны часопіс "Дзеяслоў"). У згаданых мерапрыемствах у якасці выступоўцаў прынялі ўдзел каля сотні пісьменнікаў. Назаву толькі самыя значныя з праведзеных намі вечарын: прэзентацыі нумароў "Дзеяслова" і заснаванай ім прэміі "Залаты апостраф", прэзентацыі кніг В. Іпатавай, Н. Мацяш, У. Арлова, В. Якавенкі, Э. Акуліна, П. Васючэнкі, А. Пісарыка, анталогіі беларускай паэзіі, складзенай М. Скоблам, кнігі песняў на вершы беларускіх паэтаў, прэзентацыя музычнага альбома Галіны і Барыса Вайханскіх, кнігі "150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі", дзесяткаў кніг маладых літаратараў (Валерыі Куставай, Глеба Лабадзенкі і інш.). Варта згадаць і правядзенне XI Гарэцкаўскіх чытанняў, і вечарыны 195-годдзя з дня нараджэння В. Дуніна-Марцінкевіча, 120-годдзя Ф. Аляхновіча, 110-годдзя з дня нараджэння М. Гарэцкага, Янкі Маўра, Жук-Грышкевіча, Уладзіміра Сасюры, 100-годдзя У. Дубоўкі, У. Жылкі, Н. Арсенневай, Т. Кляшторнага, Яна Скрыгана, Алеся Якімовіча; прайшлі вечарыны памяці Вацлава Ластоўскага, Ларысы Геніюш, Уладзіміра Караткевіча, В. Быкава; адбыліся вечарына-ўшанаванне пісьменнікаў-ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, вечарына маладой песні і паэзіі, юбілейнае свята Т. Шаўчэнкі, сустрэча ў Доме літаратара і вітанне украінскіх пісьменнікаў З. Паўлычкі і Р. Лубкіўскага, вечарына памяці Нэлі Тулупавай, паэтычная сустрэча "Гуканне вясны" на філфаку БДУ; была адкрыта выстава "А для вечнасці Беларусь" А. Адамовіча ў Маскве ў Дзяржаўным музеі літаратуры.

Трэба згадаць і ўдзел у Міжнародных кніжных выставах, у круглым стале ў Доме ураду аб ролі БНР у станаўленні дзяржаўнасці і незалежнасці Беларусі, у дзяржаўных камісіях па пытаннях аховы аўтарскіх правоў.

А юбілейныя вечарыны – нікому не было адмоўлена: ні старэйшынам, ні маладым. Некалькі разоў змаглі наладзіць "Навагоднія ялінкі" для дзяцей і ўнукаў сяброў нашага Саюза.

Упершыню ў гісторыі Беларусі СБП спрычыніўся да выдання Поўнага збору мастацкіх твораў Васіля Быкава ў 14 тамах. Не дзяржаўнае выдавецтва і Акадэмія навук. За два гады былі ўкладзены і выдадзены шэсць тамоў, рыхтуецца да друку сёмы. (Не магу не згадаць і тое, што Міністэрствы культуры і інфармацыі адмовіліся браць гэтыя кнігі для бясплатнага распаўсюду па бібліятэках краіны.)

Тры гады таму было распрацавана і прынята Радай Палажэнне аб ганаровым сяброўстве ў нашай арганізацыі. Ганаровымі сябрамі СБП былі абраныя К. Акула, Я. Запруднік, В. і З. Кіпелі. Праз тое Палажэнне да нас змагло далучыцца "Беластоцкае" аддзяленне. Нядаўна ганаровымі сябрамі СБП сталі Іван Драч, Змітро Паўлычка, Раман Лубкіўскі, Уладзімір Яварыўскі (Украіна), Рыма Казакова (Расія), Ёнас Ліняўскас (Летува), Норберт Рандаў (Нямеччына), Найдзн Вылчаў (Балгарыя).

Кіраўнікі СБП бралі ўдзел у многіх аргкамітэтах нацыянальных урачыстасцяў – такіх, да прыкладу, як 750-годдзя каранацыі Міндоўга, юбілею абвяшчэння незалежнасці БНР.

Толькі ўдзячнасці і павагі заслугоўвае праца секцый і Рады СБП. За чатыры гады праз іх сіта прайшло больш 200 літаратараў, 120 з якіх папоўнілі наш Саюз, які годна выконвае місію грамадскага Інстытута літаратуры, атэстоўваючы ўступантаў на прафесійную здольнасць.

Цягам апошніх гадоў вялася непарыўная супраца з ТБМ і Радай беларускай інтэлігенцыі, з ПЭН-цэнтрам (супольна з апошнім быў праведзены ў 2003 г. семінар маладых паэтаў, прапанаваны намі супольна да ўганаравання Нобелеўскай прэміяй Р. Барадулін стаў сёлета адным з шасці намінантаў на гэтую вышэйшую ўзнагароду).

На жаль, пра многае з названага вышэй, як і пра многае з неназванага вы можаце і не ведаць, бо дзяржаўныя СМІ і "прыручаныя" "ЛіМ" пра тое і іншае напісаць не палічылі патрэбным...





### Міжнародная літататурная дзейнасць

За справаздачны перыяд Саюзам беларускіх пісьменнікаў было заключана пяць дамоў аб супрацоўніцтве з пісьменніцкімі арганізацыямі суседніх краін. Праведзена дваццаць тры супольныя літаратурныя мерапрыемствы. У першую чаргу трэба згадаць беларуска-нямецкія, украінскія, расійскія, літоўскія, шведскія, казахскія вечарыны.

Штогод дэлегацыя нашага Саюза прымае ўдзел у Шаўчэнкаўскіх святах у Украіне і Міжнародным Пушкінскім свяце паэзіі ў Гурзуфе. За актыўны ўдзел у прапагандзе ўкраінскай літаратуры ў Рэспубліцы Беларусь і ўмацаванне дружбы паміж украінскім і беларускім народамі падчас правядзення года Т. Шаўчэнкі на Беларусі Ганаровымі граматамі Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны ў 2003 г. былі ўзнагароджаны Н. Гілевіч, В. Іпатава і А. Пашкевіч. Сёлета ўказам Прэзідэнта Украіны былі ўганараваны ардэнамі Украіны Н. Гілевіч, С. Законнікаў, А. Пашкевіч.

Актывізавалася супраца з беларускімі літаратарамі Беласточчыны. Тамтэйшае літаб'яднанне "Белавежа" стала своеасаблівым аддзяленнем Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Нядаўна ў Вільні пры падтрымцы МЗС Летувы і Саюза пісьменнікаў Літвы быў заснаваны "Саюз беларускіх пісьменнікаў" - наш своеасаблівы клон, урэшце, запасны аэрадром легетымнасці ў выпадку юрыдычнай ліквідацыі нашай арганізацыі на Радзіме. Фактычна ж нашыя літаратары, якія пражываюць у Вільні, стварылі Віленскае аддзяленне СБП.

Чатыры гады таму мы пацвердзілі сваё членства ў якасці сузаснавальнікаў Міжнароднай супольнасці пісьменніцкіх саюзаў (правапераемцы СП СССР). І гэта да апошняга часу давала свой плён (не зважаючы на непаразуменні, сваркі і суды ў Маскве-літаратурнай). Патрыярх С. Міхалкоў двойчы пісьмова звяртаўся да кіраўніка Беларусі ад імя сваёй арганізацыі з прапановай вярнуць нам Дом літаратара. Аднак зусім нядаўна ў МСПС быў прыняты новы беларускі пісьменніцкі Саюз, і пытанне далейшага членства СБП у МСПС павінна вырашыць новая Рада і новае кіраўніцтва нашай арганізацыі.

Найбольш трывалымі застаюцца нашыя сяброўскія сувязі ў першую чаргу з Нацыянальным саюзам пісьменнікаў Украіны, з Саюзам пісьменнікаў Масквы, Саюзам расійскіх пісьменнікаў, Саюзам пісьменнікаў Літвы (які ініцыяваў уступленне нашага пісьменніцкага саюза ў Міжнародны пісьменніцкі парламент).

Летась у Кіеве была заснавана Міжнародная асацыяцыя пісьменніцкіх саюзаў "Слова без межаў", ініцыятарамі чаго выступілі НСПУ і СБП. На сённяшні дакументальна афармляецца ўступленне ў гэтую Асацыяцыю СП Грузіі, Малдовы, Балгарыі, Румыніі, Турцыі, Славакіі, Літвы, Латвіі, Фінляндыі і Швецыі.

Усё агучанае і неагучанае арганізоўвалася і ажыццяўлялася на грамадскіх пачатках. Зроблена мала, але – паверце – нават больш, чым было магчыма.

Сёння перад СБП адкрываецца новая старонка дзейнасці. Першым пунктам будучых творчых планаў у наступным годзе павінны стаць правядзенне юбілеяў Купалы і Коласа, заснаванне электроннай бібліятэкі, дзе маглі б змяшчацца неапублікаваныя творы нашых літаратараў, а таксама запачаткаванне сваёй газеты-бюлетэню. Перад новым кіраўніцтвам СБП галоўным стане пошук фінансаў, а таксама інтэграванне арганізацыі ў міжнародную пісьменніцкую прастору.

Мы павінны напоўніцу выкарыстаць магчымасці Беларускага літаратурнага фонда, перафармаваць супрацу з ім (даўгі Беллітфонда аграмадныя, а расплачваецца за іх будзем мы ўсе разам, будзем за прададзеную "Іслач"!). Саюз беларускіх пісьменнікаў не мае ні капейкі даўгоў! І ўвесь яго апарат працаваў 4 гады на грамадскіх пачатках. У парадку дня нашага З'езду запланаванае выступленне новаабранага дырэктара Беллітфонда. Ён толькі пачынае сваю працу і як чалавек адказны, верыцца, справіцца з ёй. І ён, і большасць з нас разумеюць парадаксальнасць сітуацыі: растуць даўгі, а ніхто за тое не адказвае! І гэта пры тым, што ў Беллітфонда нават пасля продажу "Ісллачы" застаецца маёмасць і дзесяткі гектараў зямлі! У Саюза ж пісьменнікаў – ні кала, ні двара. А нам дзесяткамі шлюць лісты з просьбамі аб дапамозе – і пісьменнікі, і іх удовы. Бо ў іх уяўленні Саюз пісьменнікаў і Літфонд – традыцыйна адно цэлае. Да ўсяго ж, шчыра прызнаюся, асабіста ў мяне, як і ў большасці членаў праўлення, паразуменне са старшынёй Беллітфонда не заўсёды знаходзіцца...

Высокі З'езд! Многае мы страцілі, многае ў нас адабралі. Аднак самага галоўнага адабраць у нас немагчыма: веры ў неабходнасць тварыць і сілу вольнага слова. Гэтыя вера і сіла і яднаюць усіх нас у высакароднай справе служэння роднаму слову. Нас згуртоўваюць любоў да сваёй нацыянальнай самабытнасці, роднай мовы, прага да вольнага самавыражэння. Запарука нашага поспеху – непераможная зброя: кніга. Будзе беларуская кніга – будзе Беларусь. Якраз гэта добра разумеюць дыктатары і дыктатарчыкі розных узроўняў. А таму агалцела наступаюць і на нашыя кнігі, і на нашых творцаў, і на наш Саюз. Але колькі Скарыну не выкідвай з падручнікаў і з назваў праспектаў – ён і праз стагоддзі застанецца Скарынам! А таму заклікаю і ўсіх нас, Скарынавых нашчадкаў, і надалей працаваць – не зважаючы на ліхалецце і песімізм. Працаваць так, каб і праз дзесяцігоддзі ў вачах новых беларусаў не выглядаць здраднікамі, паслугачамі, прыстасаванцамі. Каб не было сорамна ні перад сабой, ні перад светам. Бо мы маем неацэннае, што даравана нам нябёсамі, – талент, гонар і адказнасць тварыць!

Паважаныя сябры! Чатыры гады майго старшынства ў СП – гэта сапраўдны жыццёвы і творчы ўніверсітэт. Не сакрэт, што асабіста я за гэты час шмат страціў: і час, і працу, і сілы. Аднак я ганаруся тым, што ўзначальваў старэйшую пісьменніцкую арганізацыю пасля такіх людзей, як Максім Танк, Ніл Гілевіч, Васіль Зуёнак, Уладзімір Някляеў, Вольга Іпатава. Я ганаруся тым, што СБП ацалеў, набыў за апошнія гады імідж незалежнай, аўтарытэтнай і ўплывовай арганізацыі. Таму і новаму кіраўніцтву СП я жадаю ўпэўнена і мэтанакіравана ісці тым жа шляхам. У даўнім супраціве часу і лёсу важна быць актыўным і няскорным, апантаным і вартым памяці сваіх літаратурных першапачынальнікаў. важна вучыцца паважаць думку свайго калегі, імкнуцца знаходзіць агульнае, аб'ядноўвацца вакол галоўных мэтаў і задач. А яны ў нашага Саюза застаюцца нязменнымі: абарона творчых, прафесійных і сацыяльных правоў пісьменнікаў, адстойванне свабоды слова як першаснай перадумовы творчасці, клопат пра нацыянальную літаратурную спадчыну, развіццё і прапаганда беларускай літаратуры, абарона роднай мовы, умацаванне міжнародных літаратурных сувязяў, спрыянне перакладам твораў беларускіх літаратараў...

Нахай наш Саюз пісьменнікаў і надалей працягвае захоўваць сваё добрае імя ды адстойвае тытул Лідэра Нацыянальнай Інтэлігенцыі.

І стараецца зберагчы сваю годнасць – годнасць кожнага прафесійнага пісьменніка (якая, як некалі выказаўся Эрнест Хэмінгуэй, падобная на цноту: страціўшы раз – не аднаўляецца).

І будзем разам прасіць у Бога таленту ды спрыяльнага лёсу.

*«За намі вечнасць і перад намі вечнасць».* Гэтыя словы я прамаўляў, выступаючы чатыры гады назад на пісьменніцкім з'ездзе. Да іх цяпер хачу дадаць наступнае: *«А вечнасць будзе залежаць ад таго, як мы папрацуем сёння».*

Жадаю ўсім вам духоўнай моцы, здароўя, незалежнасці і дабрабыту.

Дзякуй да ўвагу.

**Слава беларускай літаратуры!**
**Слава яе творцам!**
**Жыве Беларусь!**

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## XV з'езда Грамадскага аб'яднання "Саюз беларускіх пісьменнікаў"

1. Дэлегаты XV з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў канстатуюць, што старэйшай творчай арганізацыяй Беларусі, якая вядзе радавод з 1934 года, унесены значны ўклад у нацыянальна-культурнае адраджэнне беларускага грамадства, яго дэмакратызацыю, у справу станаўлення і абароны незалежнасці нашай дзяржавы. Саюз беларускіх пісьменнікаў застаецца арганізацыйна і творча адной з самых дзеяздольных, актыўных суполак мастацкай інтэлігенцыі краіны. Пра гэта сведчаць рэгулярнае папаўненне яго шэрагаў таленавітай моладдзю, выпуск якасных кніг, многія з якіх не толькі станоўча ацэнены айчыннымі чытачамі, але і перакладзены, выдадзены ў краінах Еўропы, выпуск недзяржаўнага літаратурна-мастацкага часопіса "Дзеяслоў", які заваяваў аўтарытэт і папулярнасць, пастаяннае правядзенне разнастайных масавых літаратурных мерапрыемстваў, заключэнне дамоў аб супрацоўніцтве і развіццё творчых стасункаў з пісьменніцкімі арганізацыямі Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Балгарыі, Германіі, Чэхіі, Славакіі, Эстоніі, Славеніі, Швецыі і іншых дзяржаў.

2. Разам з тым, дэлегаты з'езда з вялікай трывогай адзначаюць, што ў Беларусі адбываецца ліквідацыя дэмакратычных грамадскіх арганізацый і інстытутаў, ідзе жорсткі наступ на свабоду слова, пастаянна парушаюцца дзеючыя Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і заканадаўства, правы чалавека. Праявы таталітарызму выявіліся і ў адносінах цяперашняй улады да нашай творчай арганізацыі: гвалтоўна адабрана пісьменніцкая маёмасць – Дом літаратара і будынак палiклінікі, зліквідаваны рэдакцыі літаратурна-мастацкіх выданняў – органаў Саюза беларускіх пісьменнікаў, на месцы якіх узнікла падцэнзурная рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва", шэраг літаратараў унесены чыноўнікамі ў так званыя "чорныя спісы", згодна якіх ім забаронена выступаць па тэлебачанні і на радыё, выпускаць кнігі ў дзяржаўных выдавецтвах. Міністрам адукацыі аддадзена антызаконнае распараджэнне аб недапушчэнні сяброў Саюза беларускіх пісьменнікаў у навучальныя ўстановы для літаратурных выступленняў.

3. Асаблівую занепакоенасць дэлегатаў з'езда выклікаюць адносіны ўлады да беларускай мовы – галоўнага падмурку, на якім грунтуецца нацыянальная культура, духоўная і гістарычная трываласць народа. Нягледзячы на заканадаўча прынятае двухмоўе, адна з дзяржаўных моў – мова тытульнай нацыі, якую, згодна апошняга перапісу насельніцтва, назвалі роднай 74 працэнты жыхароў Беларусі, пастаянна падвяргаецца дыскрымінацыі. Яна не займае належнага месца ў дзяржаўным справаводстве, у сродках масавай інфармацыі, у выдавецтвах, у афармленні вёсак, пасёлкаў, гарадоў краіны і г. д. Беларуская мова ў суверэннай нацыянальнай дзяржаве не стала мовай навучання ў дзіцячых садках, агульнаадукацыйных школах, гімназіях, ліцэях, коледжах, тэхнікумах і ВНУ. Яна пастаянна выцясняецца з вучэбнага працэсу нават як прадмет. З праграм навучальных устаноў выключаюцца такія прадметы, як беларусазнаўства, беларуская культура ў кантэксце сусветнай культуры, якія з'яўляюцца нацыятворчымі, выхоўваюць патрыятызм, нацыянальную і чалавечую годнасць юных грамадзян краіны. Ідэалагічнымі цэнзарамі пастаянна крэсляцца школьныя праграмы, падручнікі, дапаможнікі па гісторыі і літаратуры.

Уладай пазбаўлены памяшкання Беларускі гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа, які змушаны зараз працаваць у ненармальных умовах, амаль у падполлі. Ёй не падтрымана грамадская ініцыятыва адкрыцця нацыянальнага універсітэта, за якую паставілі свае подпісы дзесяткі тысяч грамадзян Беларусі.

Сёлета ў дзяржаве толькі 21,4 працэнта першакласнікаў пачалі займацца на беларускай мове, а ў сталіцы гэтая лічба складае ўсяго 2,4 працэнта.

Дэлегаты з'езда патрабуюць ад кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь практычнага забеспячэння дзяржаўнага статуса і канкрэтнай падтрымкі беларускай мовы, з якой наўпрост звязана захаванне нацыі, нашай дзяржавы і яе незалежнасці.

4. Усведамляючы, што цяперашняя падмена сапраўднай беларускай культуры маскультурным прымітывам вядзе да духоўнага заняпаду, маральнай дэградацыі значнай часткі насельніцтва дзяржавы, Саюз беларускіх пісьменнікаў будзе мацаваць плённасць літаратурнага працэсу, скіроўваць намаганні сваіх сяброў на стварэнне новых высокамастацкіх твораў, якія стануць важным сродкам абуджэння нацыянальнай свядомасці, патрыятызму, стваральнага аптымізму людзей, кансалідацыі нацыі. Мы ведаем пра ўвагу і павагу да пісьменніцкага слова, пра падтрымку дзейнасці нашай арганізацыі з боку жыхароў Беларусі і высока іх цэнім.

Дэлегаты з'езда запэўніваюць беларускае грамадства, што пісьменнікі не саступяць з абранага імі дэмакратычнага шляху, будуць працаваць згуртавана і самааддана, годна несці званне айчыннага літаратара і заклікаюць дэмакратычныя сілы, усё насельніцтва краіны стаць на абарону нацыянальнай культуры.

5. Дэлегаты XV з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў выказваюць сардэчную ўдзячнасць Нацыянальнаму Саюзу пісьменнікаў Украіны, саюзу пісьменнікаў Масквы, а таксама пісьменніцкім арганізацыям Літвы, Польшчы і іншых еўрапейскіх краін за салідарнасць, за сяброўскую падтрымку ў нялёгкі для нас час і выказваюць упэўненасць, што наша творчае супрацоўніцтва стане яшчэ больш дзейсным і трывалым.

22 кастрычніка 2006 г. Мінск.

## Прывітанне XV з'езду Саюза беларускіх пісьменнікаў

Нацыянальны саюз пісьменнікаў Украіны сардэчна вітае сваіх сяброў, калег з адкрыццём XV з'езда Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У гэты цяжкі час мы застаемся з вамі, падзяляем вашую трывогу і гатовыя падставіць сваё братняе плячо. Жадаем пленнай працы, новых творчых здзяйсненняў на карысць сваёй Бацькаўшчыны, свайго народу.

***Прэзідыум Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны***

## Зварот Саюза пісьменнікаў Масквы

Союз писателей Москвы осуждает действия белорусских властей, направленные на ликвидацию Союза белорусских писателей.

Союз писателей Москвы поддерживает Союз белорусских писателей в его усилиях по защите принципов демократии и свободы слова, в отстаивании национального языка и культуры. В случае ликвидации старейшей и самой авторитетной в Республике Беларусь творческой организации Союз писателей Москвы готов оказать правовую и материальную помощь для регистрации Союза белорусских писателей в Москве.

***Первый секретарь Союза писателей Москвы Римма Казакова.***

19 октября 2006 г.





# "Дзеяслоў" у Лідзе

*У Ліду, дзе "Наша слова"*
*Жыве ўжо дзесяты год,*
*Прывезлі мы "Дзеясловы",*
*Каб праўду чытаў народ.*

*Эдуард Акулін, экспромт.*

*Сустрэча ў ПТВ-235. Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Эдуард Акулін*

20 снежня Ліда ў чарговы раз прымала гасцей. У ПТВ-235 і Лідскім каледжы адбыліся сустрэчы з народным паэтам Беларусі Нілам Гілевічам, выдатным паэтам Анатолем Вярцінскім, вядомым паэтам і бардам Эдуардам Акулінам, якія прэзентавалі чарговы 24-ты нумар літаратурнага часопіса "Дзеяслоў".

У ПТВ-235 сустрэчу арганізоўвалі кіраўніцтва вучэльні і старшыня суполкі ТБМ Станіслаў Карабан. Тут не вывучаюць беларускай літаратуры, таму сустрэча з пісьменнікамі была як бы вяртаннем у школьныя гады, калі дзецям даводзілася вучыць многія творы тых, каго яны бачылі зараз перад сабою.

У зале каледжа сабраліся студэнты, выкладчыкі, паэты і кампазітары Лідчыны. Сустрэча прайшла надзвычай цікава. Яе арганізатарам выступаў выкладчык беларускай мовы і літаратуры Лідскага каледжа, кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Суквецце" пры "Лідскай газеце", старшыня ТБМ каледжа Міхась Іванавіч Мельнік.

Прысутныя з вялікім захапленнем праслухалі песні на словы Ніла Гілевіча "Родная, мілая, любая" і "У тым святле" (музыку напісала таленавітая лідчанка Дзінара Мазітава). Апошняя з іх прагучала ў выкананні навучэнкі каледжа Аляксандры Арноўскай. Узрушыў да глыбіні душы музычны твор-рэквіем "Кожны чацвёрты" на словы Анатоля Вярцінскага, напісаны выкладчыкам Лідскай музычнай вучэльні Сяргеем Іванавічам Бугасавым (трэба адзначыць, што ён нядаўна быў прыняты ў Саюз кампазітараў Беларусі). Твор гучаў у запісе ў выкананні Дзяржаўнага акадэмічнага хору беларускага радыё і тэлебачання пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі, прафесара В. Роўды.

Затым слоа ўзялі шаноўныя госці. І першым выступіў вядомы, бадай, кожнаму Народны паэт Беларусі – Ніл Сымонавіч Гілевіч. Ён адзначыў: "Толькі культура ўратуе чалавецтва. Галоўнае – гэта душа чалавечая. Трэба пачынаць з душы. Калі будзем думаць пра душу і будзем клапаціцца, каб яна ўздымалася, а не падала пад ногі, тады дачакаемся яснага, светлага, прыемнага на зямлі". Ніл Сымонавіч сказаў, што трэба дапамагчы чалавеку далучыцца да кнігі, музыкі, культуры ў шырокім сэнсе слова "Ніколі не ўводзілі ў зман, як сёння. Прапаноўваюць нават не скажаш Бог, а чорт ведае што! Тое, што сёння паліцы "завалены" менавіта такой літаратурай, літаратурай, у якой няма анічога карыснага для духоўнага развіцця чалавецтва. Мы не павінны трапіць час на "пустое і неразумнае". Ва ўсім свеце мільёны цікавых кніг, з якіх чалавек сапраўды можа ўзяць нешта добрае, карыснае ва ўсіх адносінах."

Ніл Сыманавіч задаўся пытаннем: "Як спыніць маладых чытачоў на дарозе да макулатуры. Што выдаецца за мастацкую літаратуру?" Сапраўды, сёння моладзь купляе (калі яшчэ, наогул, купляе) усялякія "бульварныя" раманы, дэтэктывы, тыя кнігі, якія нічога ў сабе не нясуць. Намалявана на вокладцы напалову голая жанчына, што трымае ля скроні пісталет. А ў нутры што? Хіба там напісана пра любоў? Не. Лепш пачытайце класікаў,



*Эдуард Акулін, Анатоль Вярцінскі і Ніл Гілевіч пакідаюць аўтографы на кнігах і нумарах часопіса "Дзеяслоў"*

напрыклад, Я. Коласа, М. Танка, М. Багдановіча, І. Шамякіна, А. Грачанікава і інш. ці маладых, сапраўдных пісьменнікаў. Не губляйце час на бязглуздзіцу. У нас яго і так няшмат. Ніл Гілевіч лічыць, што галоўная праблема на сёнешні дзень - гэта праблема сям'і. "Калі будзе здаровая, моцная сям'я – усё будзе, усе праблемы будуць вырашаны. І палітычныя, і сацыяльныя, і матэрыяльныя, і эканамічныя. Усе праблемы павінны вырашаць здаровыя, выхаваныя людзі. "Цёмныя", неадукаваныя, грубыя ніякіх праблем не вырашаюць", – казаў выступоўца. Пра тое, што сям'я – галоўны інстытут, Гілевіч кажа і ў сваім вершы "Адказ з пярстом Божым":

*... Народ наш у вяках трымаўся на сям'і...*

"Сям'я і распад, сям'і, прычына нашых бед," – піша паэт. Нельга не згадзіцца, што праблема сям'і. надзвычай актуальная. Сёння вельмі часта сем'і распадаюцца, людзі жэняцца па некалькі разоў... У наш час вельмі і вельмі мала моцных, дружных сем'яў. А больш за ўсё ў дадзеным выпадку крыўдна за дзяцей, што пакутуюць за грахі дарослых.

Трэба адзначыць, што на рахунку Ніла Гілевіча каля 70 кніг. Ён не толькі піша свае верш, але і займаецца перакладамі са славянскіх моў.

На сустрэчы свае вершы прадставіў Анатоль Вярцінскі. Ён прачытаў новыя вершы і, нават, адзін недапісаны.

Верш памяці геніяльнага паэта Беларусі М. Багдановіча пад назвай "Ткачы" прачытаў Эдуард Акулін. Бард сказаў, што менавіта Багдановіча ён лічыць сваім духоўным настаўнікам. Шквал апладысментаў выклікала ягоная "Песенька галоднага беларускага ваўка".

Напрыканцы сустрэчы гасцям былі ўручаны кветкі і падарункі, зробленыя рукамі навучэнцаў. Былі прэзентаваны апошнія нумары літаратурна-мастацкага часопіса "Дзеяслоў" (выдаецца з 2002 года), якія госці прывезлі з сабою. Дарэчы, часопіс можна было набыць кожнаму ахвочаму, знакамітыя паважаныя госці пакідалі свае аўтографы, можна было сфатаграфавацца з імі на памяць. Для кожнага хто прысутнічаў у зале, гэтая сустрэча была вялікім святам. У кожнага застанецца цёплы і прыемны ўспамін.

***Наталля Сціслевіч.***



*У зале Лідскага каледжа*

# Развіталіся з Іванам Навуменкам



19 снежня ў Менску развіталіся з Народным пісьменнікам Беларусі акадэмікам Іванам Навуменкам. Пахаваны ён на Кальварыйскіх могілках, побач з жонкай Ядвігай. Іван Навуменка памёр 17 снежня на 82-м годзе жыцця.

Сотні людзей з кветкамі прыйшлі ў кватэру па вуліцы Карла Маркса, 36, дзе жыў Іван Навуменка, каб развітацца з пісьменнікам.

Грамадзянскую паніхіду на Кальварыйскіх могілках вёў намеснік старшыні прэзідыюму Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Анатоль Лесніковіч. Першым слова ўзяў акадэмік-сакратар аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў Акадэміі навук Пётар Нікіценка.

- Іван Якаўлевіч пайшоў з зямнога жыцця, але засталася ягоная багатая мастацкая і навуковая спадчына. Засталіся вучні. Засталася памяць пра выдатнага чалавека, грамадзяніна, які аддаў усе свае сілы справе служэння радзіме і ўсяму беларускаму народу. Хай пухам будзе яму беларуская зямля.

Слова бярэ дэкан філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта прафесар Іван Роўда:

- У памяці тых, хто добра ведаў Івана Якаўлевіча, гэты чалавек найперш застанецца як чалавек магутны. Магутны ўва ўсім: магутны сваёй постаццю, магутны сваімі творамі, магутны сваёй навуковай



*Беларускія пісьменнікі развітваюцца з Іванам Навуменкам*

дзейнасцю, магутны як чалавек дзяржаўны. І мы ганарымся тым, што Іван Навуменка працаваў у нашым універсітэце.

Гаворыць паэт Мікола Аўрамчык:

- Вось ён перад намі, узор беларуса: статны, высокі, мажны, прыгожы і сумленны. Дарагі Іван! Не думалася мне, што прыйдзецца амаль кожнага з вас, нашых першых "маладосцеўцаў", праводзіць у апошні шлях. Мы будзем помніць цябе заўсёды. Хай будзе табе пухам наша родная беларуская зямля.

Пісьменнік Генрых Далідовіч у 1960-я гады вучыўся на філфаку ў Івана Навуменкі:

- Адышлі ад нас у апошні час Быкаў, Шамякін, Янка Брыль. І вось цяпер яшчэ адной глыбы не стала. Некалі Леў Талстой, калі пачуў пра смерць Дастаеўскага, сказаў: "Як мне стала страшна: адвалілася ад нас штосьці вялікае". Адсутнасцю Івана Якаўлевіча адвальваецца вельмі многа ад нашай беларускай нацыі, калі вельмі цяжка з мовай, цяжка з культурай, увогуле з нацыяй цяжка. Мы страчваем яшчэ адну асобу.

Развітацца з Іванам Навуменкам прыйшлі многія відныя асобы нашай навукі і літаратуры: Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Някляеў

Івана Навуменку пахавалі па-дзяржаўнаму, з вайсковым ушанаваннем, салютам.

*Іна Студзінская,*
*радыё Свабода.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 18. 12. 2006 г. у 10.00. Замова № 2601.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2300 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1640 руб., 3 мес.- 4920 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.